№№127–128
(3666–3667)
17 жніўня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

www.nv-online.info
# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

# Хто за 23 долары
## пойдзе рэгістравацца на біржу, каб атрымаць статус беспрацоўнага?

*Сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі ў Мінску на канец ліпеня складаў 190,7 тыс. рублёў, паведамілі ў камітэце па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Мінгарвыканкама. Гэта прыкладна 23 долары.*

*Месяц таму беспрацоўным плацілі яшчэ меней — сярэдні памер дапамогі па беспрацоўі на 1 чэрвеня складаў 181,4 тысячы. Як можна пражыць месяц на такія грошы? Для параўнання: з 1 жніўня разліковая велічыня бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва складае 843,9 тыс. рублёў у месяц.*

*Дапамогу ў студзені—ліпені атрымлівалі 4017 беспрацоўных. Але гэтая лічба не можа быць паказчыкам узроўню рэальнага беспрацоўя. Не кожны, хто згубіў работу, спяшаецца атрымаць статус беспрацоўнага. Дадуць нейкія 190 тысяч рублёў, але вымушаны будзеш падмятаць вуліцы ці займацца іншай грамадскай работай. Таму нельга верыць той афіцыйнай статыстыцы, якая сведчыць, што па ўзроўню беспрацоўя людзей Беларусь "наперадзе планеты ўсёй".*



**ОТ РЕДАКЦИИ**

*Казалось бы, политикам, общественным деятелям, активистам давно пора прийти к единому мнению — бойкотировать парламентские выборы или нет. Но до голосования остается всего ничего, а "лебедь, рак да щука" тянут воз в разные стороны.*

*В одном из минувших номеров "Народной Воли" была напечатана большая статья представителя Консервативно-Христианской партии — БНФ, депутата Верховного Совета Республики Беларусь 12-го созыва Николая Крыжановского под названием "Дык навошта разумным і прыстойным людзям удзельнічаць у сумніўных выбарах?".*

*Сегодня мы публикуем статью генерал-майора Валерия Фролова, депутата Палаты представителей 2-го созыва, у которого совершенно иная точка зрения — нужно участвовать в выборах.*

*В сотый раз подчеркиваем: "Народная Воля" — не третейский судья. В то же время мы, журналисты демократического издания, и не сторонние наблюдатели. Нам небезразлична судьба страны, будущая жизнь общества, государства. А потому хотелось бы, чтобы, оппонируя друг другу, демсилы скорее пришли к единому общему решению. Только в таком случае можно рассчитывать на позитивный результат.*

**ДИСКУССИЯ**

# Мой ответ — участвовать!

С уважением относился и отношусь к Олегу Манаеву, руководителю Независимого института социально-экономических и политических исследований (НИСЭПИ), зарегистрированного в Вильнюсе. Основа этого уважения — честность, порядочность этого человека, тем более что он вращается в политизированной среде, где каждый хотел бы повлиять на него, чтобы цифры опросов, проводимых его институтом, подтверждали эффективность деятельности борцов за светлое будущее народа, готовность населения ломануть за ними к новым сияющим вершинам благоденствия, к которым они призывают.



Так вот, по опросам НИСЭПИ, 77 процентов населения якобы за перемены. После президентских выборов таких было 51 процент. При этом, в чем должны заключаться перемены, мнений великое множество. И главное, что хочет белорус, чтобы перемены осуществил кто-то другой, а мы уж с удовольствием воспользуемся ими в своих интересах.

За участие в забастовках, выход на митинги или участие в пикетах — 15—17 процентов. И то, на мой взгляд, больше теоретически.

В ходе парламентской избирательной кампании, в которой я участвую, хотя ее положительный результат для меня смехотворно ничтожен, в полной мере можно ощутить обстановку: хитромудрость и зашуганность белоруса, особенности нашей агитационной кампании, цели и задачи участников процесса — и сделать определенные выводы.

Первый вывод, согласующийся с выводом НИСЭПИ, — бойкот не реален. На вопрос "Еврорадио" "То есть можно с большой вероятностью говорить, что 23 сентября на выборы придет не менее 2/3 от общего числа имеющих право голоса?" О.Манаев отвечает: "Да". Хотя тут же подчеркивает, что с 2008 года число считающих, что выборы будут свободными, уменьшилось с 48 до 37 процентов, а число считающих, что они несвободные, увеличилось с 35 до 40 процентов. Число избирателей, которые проголосовали бы за кандидата, поддерживающего власть, за четыре года уменьшилось с 40 до 27 процентов и стало меньше, чем количество тех, кто готов проголосовать за оппонента власти, — последних 28%. Привожу высказывания О.Манаева: "Это значит, что потенциал тех 77 процентов, которые хотят перемен, возрос! И сегодня они готовы проявить свое недовольство ситуацией на парламентских выборах. А те, кто призывает к бойкоту, этих людей отталкивают".

Думаю, дай и я простенький опрос проведу среди соседей, друзей. Как они относятся к тем, кто призывает к бойкоту? Ответ примерно такой: "Легко им зазывать! А если я не пойду на выборы, то мастеру, бригадиру, завучу это доложат. И у меня возникнут проблемы. Кто мою семью кормить будет?" Вот еще один повод не любить пламенных революционеров. Очевиден факт: несмотря на неулучшающиеся условия жизни, несмотря на снижение доверия и уважения к власти, рейтинг оппозиции не растет, а число людей, которые хотели бы видеть в депутатах руководителей партийных структур, — минимальное. Это по опросам того же НИСЭПИ.

Не знаю, как вы отнеслись к статье Н.Халезина "Заговор обреченных", но я считаю, что какому-нибудь аналитику из КГБ вряд ли удалось бы так обгадить многих из обозначенных фигурантов политического процесса, как это сделал Николай. И только за то, что люди не отказались от участия в выборах!

С каким высоконравственным ощущением он и многие интернетчики-комментаторы, чаще всего не забившие в жизни ни одного гвоздя, не руководившие 1—2 человеками, ощущают себя святее Папы Римского, чище и благородней этих "баранов", идущих на выборы.

*(Окончание на 2-й стр.)*

**ВЫБАРЫ-2012**

# Праваабаронцы не спяць...

*Праваабаронцы падрыхтавалі справаздачу па выніках назірання за фарміраваннем участковых выбарчых камісій па выбарах (УВК).*

Як вядома, у складзе сфарміраваных УВК абсалютную перавагу маюць прадстаўнікі лаяльных да ўлады грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый, інфармуе spring96.org.

Уведзеная ў 2010 г. у Выбарчы кодэкс (ВК) (артыкул 34) квота не менш за адну трэць для прадстаўнікоў грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый у складзе УВК запаўняецца за кошт павышэння долі прадстаўніцтва праўладных грамадскіх аб'яднанняў і палітычных партый. Гэта не стварае большага плюралізму ў складзе УВК і не пазбаўляе выканаўчую ўладу магчымасці поўнага кантролю за падлікам галасоў.

У пераважнай большасці выпадкаў УВК фарміраваліся непразрыста, шляхам зацвярджэння загадзя прапанаванага спісу, у шэрагу выпадкаў назіральнікі не мелі магчымасці назіраць за працэдурай прыняцця рашэння. Адсутнасць крытэрыяў для ўключэння альбо адхілення вылучаных кандыдатур дазваляе органам выканаўчай улады маніпуляваць працэсам.

Усяго ў склад участковых выбарчых камісій, паводле звестак Цэнтральнай выбарчай камісіі, была вылучана 84.781 кандыдатура, у тым ліку ад грамадзян шляхам падачы заявы — 32.908 кандыдатаў (38,8%), ад працоўных калектываў — 15.375 (18,1%), ад палітычных партый і іншых грамадскіх аб'яднанняў — 36.498 (43%).

У бягучай выбарчай кампаніі ў цэлым доля вылучаных у склад УВК прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх аб'яднанняў узрасла да 42%. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 г. яна склала 39,1%. Адпаведна ў 2012 г. скарацілася колькасць кандыдатур ва УВК ад грамадзян і працоўных калектываў.

Некаторыя назіральнікі сутыкнуліся з праблемай допуску на пасяджэнні органаў, якія фарміруюць УВК. Мелі месца факты ўтойвання інфармацыі пра час пасяджэнняў. Парушаючы частку 2 артыкула 39 Закона "Аб мясцовым кіраванні і самакіраванні", некаторыя выканкамы наогул адмовілі назіральнікам у праве прысутнічаць на пасяджэннях. Падобная сітуацыя была зафіксавана ў Глыбоцкім, Вілейскім, Лагойскім, Маладзечанскім, Аршанскім, Віцебскім райвыканкамах і іншых.

Нулявы конкурс у склад УВК быў на пасяджэннях Лагойскага, Івацэвіцкага, Верхнядзвінскага райвыканкамаў і іншых.

Паводле інфармацыі праваабаронцаў, конкурс на месца ва ўчастковую камісію ў сярэднім па краіне склаў 1,2 чалавека. Гэты паказчык істотна адрозніваецца ў Мінску — 1,6.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ДАРЭЧЫ**

Як паведаміў БелаПАН сакратар Цэнтрвыбаркама Мікалай Лазавік, тэхнічная група місіі назіральнікаў Бюро па дэмакратычных інстытутах і правах чалавека (БДІПЧ) АБСЕ прыбудзе ў Беларусь 21 жніўня.

"Група будзе займацца пытаннямі арганізацыі офіса, сувязі, транспарту", — сказаў ён.

Асноўная група доўгатэрміновых назіральнікаў пачне прыязджаць праз некалькі дзён пасля прыезду тэхнічнай групы.

Для працы ў Беларусі БДІПЧ АБСЕ мае намер накіраваць 40 доўгатэрміновых і 270 кароткатэрміновых назіральнікаў. Узначаліць місію прадстаўнік Македоніі Антоніа Мілашоскі, яго намеснік — прадстаўнік ЗША Доналд Бісан.

## У знак пратэсту

Пяць патэнцыяльных кандыдатаў ад Партыі БНФ адмовіліся ад удзелу ў выбарчай кампаніі ў знак пратэсту супраць вынікаў фарміравання выбарчых камісій.

Пра гэта паведаміў намеснік старшыні Партыі БНФ **Ігар Лялькоў** падчас прэзентацыі праграмы рэформ "Народная праграма".

Паводле яго слоў, 4 жніўня першая сесія з'езда партыі вылучыла ў кандыдаты ў дэпутаты 38 членаў. *"Тады ж было прынята рашэнне аб зняцці кандыдатаў ад партыі пры невыкананні ўладамі ўмоў: уключэнні ўсіх прэтэндэнтаў ад партыі ў акруговыя і ўчастковыя выбарчыя камісіі і вызваленні палітзняволеных"*, — нагадаў Лялькоў.

У гэты момант, зазначыў ён, дакументы на рэгістрацыю ад Партыі БНФ падалі толькі 33 патэнцыяльныя кандыдаты ў дэпутаты.

*"Пяць прэтэндэнтаў адмовіліся падаваць дакументы ў знак пратэсту супраць неўключэння нашых прэтэндэнтаў ва ўчастковыя выбарчыя камісіі менавіта ў тых акругах, у якіх яны мелі намер балатавацца"*, — сказаў Лялькоў.

Ён нагадаў, што з 57 прадстаўнікоў партыі ў акруговыя выбарчыя камісіі ўключылі 12 чалавек, а з 233 прэтэндэнтаў на ўдзел ва ўчастковых выбарчых камісіях ад Партыі БНФ і грамадскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" ў іх трапілі толькі 13 чалавек.

**Сяргей ПУЛЬША.**

## «Салдаты Лідзіі Ярмошынай»

Грамадзянская кампанія "Гавары праўду!" прааналізавала персанальны склад выбарчых камісій усіх узроўняў, якія дзейнічалі ў апошніх пяці электаральных кампаніях — пачынаючы з прэзідэнцкіх выбараў 2006 года і заканчваючы сёлетнімі парламенцкімі. Пра гэта паведаміў намеснік старшыні кампаніі Аляксандр Фядута.

Паводле яго слоў, кампанія доўга думала над назвай праекта, у выніку спыніўшыся на варыянце "Салдаты Лідзіі Ярмошынай". *"Назву нам падказала яе фраза пра тое, што члены ЦВК з'яўляюцца салдатамі Радзімы. Аднак яна не салдат, а генерал, які адпраўляе салдат, членаў выбарчых камісій, на перадавую"*, — цытуе палітыка БелаПАН.

Фядута паведаміў, што ў працэсе рэалізацыі праекта была створана база даных, якая дазваляе даведацца, *"дзякуючы чыёй асабістай дзейнасці міжнародная супольнасць так і не прызнала, што ніводная з пяці прааналізаваных кампаній адпавядае прынятым у АБСЕ стандартам празрыстасці і дэмакратыі"*.

У базе ўтрымліваюцца звесткі пра 126.333 асобы, якія ўваходзілі ў склад выбарчых камісій. Адна з асаблівасцяў "салдат" Ярмошынай, паводле слоў Фядуты, заключаецца ў тым, што большасць з іх вылучалася ў камісіі ад чатырох арганізацый: БРСМ, РГА "Белая Русь", "козікаўскіх" прафсаюзаў і ўстаноў адукацыі.

**РЭАКЦЫЯ**

## «Менавіта той чалавек...»

*Заяву Аляксандра Лукашэнкі адносна місіі Матэа Мекачы пракаментаваў кіраўнік прэс-службы ПА АБСЕ Ніл Сайман.*

*"Матэа Мекачы доўгі час назіраў за развіццём падзей у Беларусі, і ён — менавіта той чалавек, які патрэбны для таго, каб узначаліць місію назіральнікаў і данесці пазіцыю ПА АБСЕ адносна парламенцкіх выбараў у Беларусі"*, — упэўнены Ніл Сайман.

*"Мы прызначылі Матэа Мекачы на гэтую важную місію паводле прапановы прэзідэнта Парламенцкай асамблеі АБСЕ Рыкарда Мільёры"*, — дадаў ён.

Чакаецца, што назіральнікі ад АБСЕ пачнуць прыбываць у Мінск пасля 20 жніўня.

**Малайцы беларускія камбайнеры — на ўчарашні дзень яны намалацілі амаль 8 мільёнаў тон збожжа. Сярэдняя ўраджайнасць з гектара — 38,3 цэнтнера, а ў Гродзенскай вобласці — 48,8 цэнтнера.**

**Без хлеба не застанемся!**

**ПРАЦЯГ СКАНДАЛУ**

# Нехта падставіў...

*Працягваюць бурліць страсці вакол допінгавага скандалу з удзелам беларускай штурхальніцы ядра Надзеі Астапчук, якую пазбавілі залатога медаля пасля таго, як допінг-тэст паказаў станоўчы вынік.*

Відавочна, што галоўная пацярпелая ў гэтай сітуацыі — сама спартсменка. Ёй шчыра можна паспачуваць. На гэтым тыдні, дарэчы, Надзеі нават выклікалі "хуткую", урачы давалі заспакаяльныя лекі. Сама Астапчук да гэтага часу не можа зразумець, якім чынам у яе арганізм патрапіў допінг. Але ўпэўнена, што нехта яе падставіў.

Салідарны з ёй і былы галоўны трэнер нацыянальнай каманды Беларусі па лёгкай атлетыцы Аляксандр Рудскіх.

*"Напрыканцы ліпеня проба Астапчук аказалася адмоўнай, і раптам 5 жніўня знайшлі забаронены прэпарат*, — цытуе **Аляксандра РУДСКІХ** sportpanorama.by. — *Відавочна, што гэта правакацыя. Так, мы не можам дакладна сказаць, хто гэта зрабіў. Але бяспрэчна, што гэта зроблена наўмысна тымі, хто не любіў трэнера і спартсменку. Яны, магчыма, адпомсцілі за тую пазіцыю, якую абодва займалі ў адносінах да "цёмных" спраў, якія мелі месца ў федэрацыі і ў нацыянальнай камандзе... Не выключаю, што допінг-прэпарат мог патрапіць у арганізм шляхам падсыпання альбо падлівання вадкасці ў ежу".*

Тым часам, па неафіцыйнай інфармацыі, допінг знайшлі і яшчэ ў аднаго беларускага ўдзельніка Алімпійскіх гульняў у Лондане, піша БелаПАН. Яго прозвішча не называецца, але размова не ідзе аб медалісце.

— Што датычыцца справы Астапчук, то на сённяшні дзень ідзе расследаванне па гэтым факце, — распавёў "Народнай Волі" дырэктар Нацыянальнага антыдопінгавага агенцтва **Аляксандр ВАНХАДЛО**. — Натуральна, у гэты час ніякай інфармацыі мы даць не можам.

**— Хто праводзіць расследаванне?**

— Наша агенцтва сумесна з Федэрацыяй лёгкай атлетыкі. Паралельна такое ж разбіральніцтва будзе весці і Міжнародная федэрацыя лёгкай атлетыкі.

**Алесь СІВЫ.**

**ПАЛІТЫКА**

# 7 фактаў аб дэпутаце Мекачы,
## *пра якога Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Думаю, што маглі б знайсці больш дасведчанага чалавека ў частцы Беларусі і сітуацыі ў Рэспубліцы Беларусь»*



Менавіта так выказаўся А.Лукашэнка падчас сустрэчы з кіраўніком расійскага МЗС **Сяргеем Лаўровым** пра **Матэа Мекачы**, які прызначаны кіраўніком назіральнікаў ад Парламенцкай асамблеі АБСЕ на будучых парламенцкіх выбарах.

"Салідарнасць" прыводзіць факты аб італьянскім дэпутаце, які, адчуваецца, не спадабаўся беларускаму кіраўніку.

1.Матэа Мекачы, 36-гадовы прадстаўнік маладых палітыкаў, уваходзіць у Дэмакратычную партыю Італіі, якая была галоўнай апазіцыйнай сілай у адносінах да экс-прэм'ера **Сільвіа Берлусконі**, сябра Аляксандра Лукашэнкі.

Матэа Мекачы таксама ўваходзіць у транснацыянальную радыкальную партыю. Гэта міжнародная міжпартыйная арганізацыя вядзе негвалтоўную барацьбу за зацвярджэнне дэмакратычных праў і свабод ва ўсім свеце. Вядомая ў тым ліку сваімі антымілітарысцкімі кампаніямі.

2.У якасці старшыні камітэта па правах чалавека ПА АБСЕ Матэа Мекачы нагадваў украінскім уладам, што ў рэгіёне АБСЕ не павінна быць палітычных зняволеных. Італьянец меў на ўвазе былых членаў урада, якія знаходзяцца ў турме, — **Юлію Цімашэнка**, **Юрыя Луцэнку** і **Валерыя Івашчанку**.

3.Матэа Мекачы быў на Плошчы ў Мінску 19 снежня 2010 года. Аб гэтым з абурэннем паведаміў Першы канал БТ (зараз — "Беларусь-1"). Італьянскі дэпутат працаваў на прэзідэнцкіх выбарах назіральнікам ад АБСЕ.

4.Увосень мінулага года старшыня камітэта па правах чалавека Парламенцкай асамблеі АБСЕ заклікаў беларускія ўлады вызваліць усіх палітвязняў. Матэа Мекачы канстатаваў расчараванне ПА АБСЕ ў палітыцы афіцыйнага Мінска, які працягнуў пераслед апазіцыі і пасля прэзідэнцкіх выбараў 2011 года.

5.Матэа Мекачы падтрымліваў кантакты са сваякамі палітычных зняволеных Беларусі, з сайтам charter97.org.

6.Матэа Мекачы быў у складзе місіі назіральнікаў ПА АБСЕ, якая расцаніла парламенцкія выбары, што прайшлі ў Казахстане ў студзені 2012 года, як не адпавядаючыя асноватворным прынцыпам дэмакратычных выбараў.

**Нурсултан Назарбаеў** на гэта заявіў: "Мы больш не будзем запрашаць у Казахстан нанятых кімсьці экспертаў, якія крытыкуюць нашы выбары".

7.Пасля прызначэння кіраўніком місіі назіральнікаў за парламенцкай кампаніяй у Беларусі Матэа Мекачы выказаў надзею на тое, што будучыя выбары будуць больш ліберальнымі і дэмакратычнымі, чым папярэднія.

— Мы вельмі спадзяёмся, што ўсе, уключаючы і тых, хто цяпер знаходзіцца пад хатнім арыштам або ў турме, атрымаюць магчымасць свабодна і без абмежаванняў прыняць удзел у парламенцкіх выбарах, — сказаў ён.

**Антон КАРПОВІЧ.**

АРМІЯ

# Колькі хто атрымлівае,

## альбо Чаму ўлады занепакоіліся заробкамі вайскоўцаў



З 1 ліпеня (калі верыць "Беларускай ваеннай газеце") падвысілі службовыя аклады за ваенную службу па кантракце. Гэтае падвышэнне ажыццёўлена ў адпаведнасці з указам Лукашэнкі ад 20 красавіка 2012 года "Аб дадатковых мерах матэрыяльнага стымулявання ваеннаслужачых і дзяржаўных служачых". Яно, у прыватнасці, закранула ваеннаслужачых Узброеных сіл, транспартных войск, сістэм ваенных пракуратур і ваенных судоў, за выключэннем ваеннаслужачых тэрміновай службы, а таксама курсантаў, якія не праходзілі непасрэдна перад залічэннем у ваенную навучальную ўстанову ваенную службу па кантракце. Акрамя таго, у Мінабароны па ўзгадненні з Дзяржаўным сакратарыятам Савета бяспекі распрацавана і зацверджана палажэнне аб умовах і парадку выплаты ваеннаслужачым адзіначасовай грашовай узнагароды за службу ва Узброеных сілах.

Агулам рэалізацыя ўсяго комплексу "заработных" новаўвядзенняў дазволіць падвысіць заробкі, якія службоўцы пачнуць атрымліваць ужо зараз, на 52% у параўнанні з красавіком... Працэнты ўражваюць, але мала што тлумачаць. Народ жа, працай якога фарміруецца ваенны бюджэт, хоча ведаць не толькі пра тое, чаму ў нас дзіравая дзяржаўная мяжа, але і пра канкрэтныя заробкі службоўцаў усіх рангаў, у якіх яны суадносінах з заробкамі цывільных грамадзян...

Спробы атрымаць даныя ў галоўным ваенным ведамстве нічога не далі — аказваецца, ваенная тайна!.. А па-мойму, дык дзіцячая хвароба, ці там — выдаткі пераходнага перыяду ад таталітарнага рэжыму да агульначалавечых норм. Да слова кажучы, падобная карцінка з "празрыстасцю" грашовага забеспячэння службоўцаў і ў большасці былых рэспублік СССР. Выключэнне — хіба што краіны Балтыі ды часткова Расія і Украіна. Калі ў Беларусі даныя пра выплаты ваенным трэба збіраць па макавым зярнятку, дык у Эстоніі ці ў Германіі — ніякіх табе сакрэтаў, заходзь на сайт Мінабароны і хоць захлыніся тымі данымі. Ну, да прыкладу, возьмем бундэсвер... Аказваецца, грашовае забеспячэнне там — адно з самых высокіх сярод армій альянсу і рэгулярна павялічваецца. А вось і канкрэтныя лічбы: асноўныя аклады (яны дадзены ў выглядзе дэталёвай табліцы) залежаць ад звання і выслугі, а агульная льготная прыбаўка — ад тарыфнай групы і... сямейнага становішча службоўцы. Ваенныя, якія маюць дзяцей, атрымліваюць штомесячныя дзіцячыя дапамогі (у пераліку на долары): 125 — на адно дзіця, 250 — на двух, 565 — на трох, 880 — на чатырох і па 132 — на кожнага наступнага дзіцёнка.

Акрамя таго, прадугледжаны прыбаўкі за кожную звышурочную гадзіну службы — ад 0,88 да 3,75 долара ў залежнасці ад пасады. Даплаты лётнаму асабоваму складу ВПС дасягаюць 611 долараў у месяц. Асабовы склад, які рэгулярна скача з парашутам, мае прыбаўку 150 долараў у месяц, а падводнікі — 300. У доўгачасовых паходах прыбаўляецца яшчэ 150 долараў. Прыбаўкі за камандзіроўкі залежаць ад катэгорыі раёна камандзіравання. Такіх катэгорый шэсць. Першая — камандзіроўкі ў месцы, дзе ўмовы пражывання нязначна адрозніваюцца ад пунктаў пастаяннай дыслакацыі. Тым не менш 33 долары ў суткі атрымай! Другая — пражыванне ў намётах, складаныя бытавыя ўмовы, затраты на жыццезабеспячэнне і тэлефанаванні блізкім. Тут ужо менш як 53 доларамі не абысціся. Самая высокая катэгорыя, шостая, — раёны баявых дзеянняў з рызыкай для жыцця. Тут выплаты — 120 долараў у суткі. Апроч грошай у бундэсвер заманьваюць магчымасцю атрымаць адукацыю і адну з 60 цывільных спецыяльнасцяў. Вось так!

А як у арміі Яе Вялікасці каралевы Елізаветы ІІ? Там — толькі кантрактнікі. І заробкі ў іх, як на наш погляд, дык зусім не дрэнныя. Радавы атрымлівае да 1750 долараў у эквіваленце. Аднак жа многія на Туманным Альбіёне лічаць па-іншаму. Напрыклад, генерал сэр Рычард Данат назваў самай вострай праблемай... надзвычай нізкую зарплату ваеннаслужачых: маўляў, работнікі на аўтапаркоўках зарабляюць больш, чым салдаты на перадавой... Нашым бы такую "вострую праблему"...

Але вернемся да беларускіх вайскоўцаў ды іх "засакрэчаных" заробкаў. Вядома, што грашовае забеспячэнне беларускіх вайскоўцаў складаецца з акладаў па званні і пасадзе, з надбавак-прыбавак за выслугу гадоў і прэмій, якія — адпаведна — падвышаюць тое забеспячэнне прыкладна ў паўтара раза. А калі без прэмій? Тады радавы-кантрактнік атрымлівае (атрымліваў да цяперашняга падвышэння) 200—230 долараў, прапаршчык — 250—300, лейтэнант — 280—380, маёр-падпалкоўнік — 400—500. Прыбаўка за класнасць — 33 долары. Так было. Але ж цяпер усё будзе па-іншаму, заробак падскочыць ажно на 52 працэнты... І — Божухна літасцівы — наш палкоўнік, магчыма, ураўнуецца (па зарплаце) з радавым бундэсвера ці мо нават з радавым Яе Вялікасці...

Тут для параўнання (хто і колькі атрымлівае) варта прывесці даныя трох еўрапейскіх краін (*глядзіце табліцу ніжэй*).

Калі беларускі лейтэнант не дацягнецца да заробкаў Ганса, то ўжо брата-ўкраінца стопудова абставіць, бо яшчэ на пачатку лета ўкраінскі лейтэнант — камандзір узвода атрымліваў усяго 190 долараў, а капітан — 300. "Украінскі капітан з вышэйшай адукацыяй атрымлівае меней, чым кіеўскі дворнік", — спачувальна канстатавала ў вэб-сецiве ўкраінская газета "Focus". Па ўсім так яно і ёсць, калі ўлічыць, што нават лейтэнанты Службы бяспекі Украіны (эліта!) маюць у сярэднім 400 долараў. А тут яшчэ Кабінет міністраў "точыцца" павысіць неабходную для выхаду на пенсію выслугу да 30—35 гадоў, а самі ваенныя пенсіі абмежаваць 700 доларамі...

Але што нам Украіна, нам падавай вялікую Расію!.. А расійскім вайскоўцам яшчэ ў студзені заробкі паднялі ў 2,5—3 разы. Цяпер расійскі капітан атрымлівае амаль 66 тыс. рублёў, гэта больш за 2 тысячы долараў. І пенсіі ваенным там падвысілі, прычым досыць прыкметна — у паўтара-два разы. У беларускіх ваенных пенсіі таксама немаленькія (у параўнанні з цывільнымі пенсіямі), але да расійскіх ім — як да неба...

Беларускім вайскоўцам, лічыць Лукашэнка, павінны плаціць гэтулькі ж, колькі і расіянам. Яшчэ на пачатку лютага Рыгоравіч заявіў, што з дапамогай фінансавай падтрымкі Расійскай Федэрацыі беларускім ваенным падвысяць зарплаты да расійскага ўзроўню. Аднак канкрэтных лічбаў ні Лукашэнка, ні Мінабароны не называюць. Сума выплат (ці той дапамогі) — за сямю замкамі-пячаткамі. А мо проста "понты"... Але слоў з песні не выкінеш. *"Практычна агульная армія і задачы, якія перад ёю стаяць* (у Беларусі і Расіі. — **Аўт**.). *Але памер грашовага забеспячэння ваенных Беларусі і Расіі адрозніваецца. Такое становішча павінна быць зменена,* — прыводзіць словы Лукашэнкі агенцтва "Інтэрфакс-Захад". — *Я яму* (прэзідэнту Расіі. — **Аўт**.) *накіраваў пісьмо пра неабходнасць знаходжання для беларускіх ваеннаслужачых дадатковых сродкаў за кошт розных накірункаў супрацоўніцтва Беларусі і Расіі. І ён абяцаў дапамагчы ў гэтым плане".* Яшчэ 6 лютага Лукашэнка замовіў пра тую дапамогу з боку РФ, маўляў, беларускім вайскоўцам падвысяць зарплаты да расійскага ўзроўню. Паколькі дакладных лічбаў міністэрскія чыны не агучваюць, то выходзіць, што беларускім ваеннаслужачым абяцалі падняць зарплаты да 2 тысяч долараў...

І ўсё ж немагчыма зразумець, якім чынам павінна ажыццяўляцца такая "братняя" дапамога, бо — нават у адпаведнасці з беларускім заканадаўствам — Расія не можа плаціць грошы беларускім ваенным. Выхад, верагодна, у тым, каб сэканоміць грошы на іншых пазіцыях ваеннага бюджэту (а ён складаецца не толькі з зарплат) і перанакіраваць іх на выплату службоўцам. Але і тут закавыка... Справа ў тым, што ў Расіі суадносіны выплат ваенным і цывільным грамадзянам хоць неяк карэкціруюцца, маюць разумную прапорцыю-раўнавагу. А што будзе ў Беларусі ў выпадку такога падвышэння? Беларускі капітан будзе атрымліваць 2 тысячы баксаў, а той жа цывільны доктар ці там настаўнік — 400—500 долараў? Народ можа не зразумець такую "бацькоўскую" шчодрасць да адных і поўную абыякавасць да іншых грамадзян. Улады цяпер напружваюцца, каб хоць да канца года давесці сярэдні заробак да 500 долараў, а тут — 2000 "зялёных"... Тым не менш кіраўнік усяе Беларусі (ён жа і галоўнакамандуючы) настроены рашуча. Чым тое патлумачыць?

Ваенны эксперт Аляксандр Алесін тлумачыць лукашэнкаўскі клопат пра ваенных наступным чынам: *"Калі беларускім ваенным не плаціць, то яны пабягуць у Расію, дзе аклады ўдвая большыя і не хапае ваеннаслужачых. На кантрактных пасадах служыць могуць там і неграмадзяне Расіі. Цяпер у іх з'явіцца магчымасць у Саюзнай дзяржаве выслужыць для сябе расійскае грамадзянства. А калі яны будуць служыць у расійскай арміі, то будуць удзельнічаць і ва ўсіх іхных канфліктах".*

Наколькі гэта сур'ёзна і ці мае пад сабой хоць які грунт такая перспектыва? Верагодна, эксперт мае рацыю, калі ўспомніць словы самога Лукашэнкі: *"У нас, у прынцыпе, агульная армія, таму што задачы ў нас агульныя стаяць, а памер грашовага забеспячэння ў ваенных Расіі і Беларусі можа адрозніваца ў 2 разы. Гэта непрымальна".* Вось так! Значыцца, цалкам магчыма, што ўслед за межамі мытнага кантролю будзе сцёрта і мяжа паміж арміямі Беларусі і Расіі. Ці будзе гэта азначаць, што нашы вайскоўцы паедуць служыць на Сахалін альбо стануць удзельнічаць у антытэрарыстычных аперацыях на Каўказе?.. Пытанне рытарычнае, бо хто каго гуляе (плаціць), той таго і танчыць...

**Георгій ЧЫГІР.**

**Заробкі вайскоўцаў у трох еўрапейскіх краінах (у доларах):**

| Званне | Германія | Вялікабрытанія | Францыя |
|---|---|---|---|
| Радавы | 1668–2839 | 1625–1750 | 1400–1700 |
| Сяржант | 2401–3559 | 4000–5000 | 1700–2600 |
| Лейтэнант | 2913–3999 | 3500–3800 | 2300–2900 |
| Палкоўнік | 6008–8413 | 9500–10.600 | 5000–5500 |
| Генерал | 9015–13.798 | 10.700–12.000 | 6000–8000 |

ОПЕЧАТКА

## Что значит одна буква...

*Казалось бы, одна буква в слове смысл сказанного не меняет. Нет, бывают случаи, когда еще как меняет! До совершенно противоположного значения.*

*К сожалению, в заметке пенсионера из Минска О.И.Вараксы "Взыскать с генералов...", напечатанной в предыдущем номере, замена при электронном наборе буквы "**я**" на букву "**л**" привела к печальному результату. Произошло это, конечно, случайно, но редакция не может допустить, чтобы опечатка не была исправлена. Ведь после того, как шведский легкомоторный самолет безнаказанно пересек границу,* ***вводили в заблуждение народ (фактически обманывали) генералы, а не А.Лукашенко.*** *Президент как раз сказал людям правду и наказал виновных. Поэтому, исправляя промах, мы вторично помещаем на страницах газеты заметку О.И.Вараксы и приносим извинения читателям и лично Александру Григорьевичу за допущенную опечатку.*

## Взыскать с генералов...

Для чего государству, народу нужна армия? Думаю, не только для парадов.

Шведский самолет, безнаказанно пересекший границу, показал: наш генералитет не способен к защите Отечества. Шведы легко проникли на территорию Республики Беларусь и так же легко улетели незаметно для наших противовоздушных сил.

Генералы не один день отвергали очевидные факты нарушения границ. Обманыва**я** народ и лично А.Лукашенко. Они фактически совершили государственное преступление в мирное время, а страдают невинные молодые люди, сидя в тюрьме... Понятно, страдают и их семьи. Может, генералы позаботятся об их скорейшем освобождении и возместят хотя бы моральный ущерб этим семьям?

С уважением к редакции —

**О.И.ВАРАКСА, пенсионер.**

*Минск.*

ДИСКУССИЯ

# Мой ответ — участвовать!

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

Не знаю, может, я слишком натуралистически опишу свои ощущения по отношению к бойкоту, но все-таки сделаю это. Был в Европе, США. Туалет там на любой дороге, в любом месте такой, что любо им воспользоваться. У нас же частенько такой, что, подходя к нему, надо нос закрывать. И вот многие благородные, заткнув нос, не заходят в него, а пользуются окружающей местностью, так нагадив вокруг, что менее благородному не мудрено и в дерьмо ступить. Какие у нас туалеты, выборы и парламент — все от нас зависит. Поэтому и вляпываемся мы. Пойдешь — вляпаешься то ли в агенты КГБ, то ли в конформисты.

И еще из интервью с О.Манаевым: "Как раз те люди, которые активно не принимают определенные аспекты белорусской жизни, на выборы... не ходят! Именно они и пропагандируют бойкот. И получается замечательная вещь: те, кто к власти относится лояльно, стройными рядами идут на избирательные участки. А активные или потенциальные протестующие или сознательно бойкотируют выборы, или находят причины, чтобы на них не идти... В такой ситуации фальсификации с манипуляциями не нужны.

Конечно, власти подстраховываются. И комиссии высокоидейные, и мастера, завучи проинструктированы. Но они тоже в стране живут. И, получив цифры, определяющие количество людей, не участвующих в выборах, как сказал аккуратно О.Манаев, "не принимающих определенные аспекты белорусской жизни", грустнеют и думают: а может, верной дорогой идем? И что пишет Манаев, это его дело, и откуда он их берет, эти цифры. Мы видим другое: народ дружно голосует за блок коммунистов-беспартийных.

Ну, может, иногда приходится высшую математику применять.

Может, бойкотчики для осуществления перемен готовят партизанские отряды, революционные группы боевиков, комплектуя их из кухонных или интернетовских героев? На 100 процентов — нет. Да и ливийские, сирийские и прочие революции показывают, что они в первую очередь выходят боком простому народу. Наемник деньгу загребает, всякие разные вожди свои вопросы решают — страдает население. Есть среди революционеров идейные, искренние и порядочные люди. Но в силу своей порядочности они остаются вне благ. Революции делают романтики, результатами пользуются негодяи. Какие бы ни были выборы, а это и от народа зависит, это мирный путь. И если не способны их провести достойно, то и живем так, как живем.

Следующие выборы — и если президента будет избирать парламент, что не исключено, и если на них опять ломанет 8—10 кандидатов — могут быть весьма чреваты для Беларуси.

Я рассматриваю парламентские выборы даже не как агитационную кампанию, а как учебу самих кандидатов, особенно пламенных борцов, в большей степени варящихся в собственном соку. Встречаясь с людьми, понимаешь их, их отношение к ситуации в стране, как они видят возможное развитие ситуации.

Не бойкот, а участие в выборах, на мой взгляд, может повлиять и на членов избирательных комиссий. Они живут среди избирателей, у них тоже дети, семьи. И когда они увидят (а "Народную Волю", к сожалению, читают далеко не все), что действительно 77 процентов хотят перемен и что большее число голосуют за оппонентов власти, а тут еще, не дай Бог, следующая девальвация шандарахнет на пути к 500-долларовой зарплате, они могут стать сторонниками и агитаторами перемен, тихонько, по-белорусски, как и многие чиновники, всякие руководители, с которыми они общаются, которых они информируют о реальных результатах выборов, и которым надоело ходить на полусогнутых, шестерить и холуйствовать. Раньше на комсомольских и партийных собраниях они себя людьми в большей степени ощущали.

Очередная элегантная победа кандидатов по списку, чему способствует бойкот, превращающая парламент в отхожее место, сужает поле для маневра власти, не способствует принятию взвешенных решений, вызывает рост недовольства у населения, рост понимания у все большей части людей, что в бульбе можно и не отсидеться.

Читаю в "Народной Воле" статьи, например, Д.Ребенка, других активистов с критикой А.Милинкевича, идущего на выборы, с призывом к какой-то политической забастовке, с критикой Д.Усса, В.Некляева, С.Калякина — и радуюсь за этих критиков. За их дулю в кармане с благородным выражением лица, которую в кармане трудно разглядеть, но уже вечером на даче, за рюмкой, он уж точно расскажет, как он этой дулей энергично шевелил, и созреет для следующей критики. Это по-ленински — критика и самокритика.

Милинкевич планирует баллотироваться в Уручье. И готовится идти не с голыми лозунгами, а с Народной программой, в разработке которой принимали участие десятки специалистов, обсужденной на многочисленных встречах, в том числе с участием представителей власти. Конечно, Народная программа не бестселлер, многомиллионными тиражами не издавалась, но активисту, если он активный, можно было и почитать, вреда не будет.

Тем более ничто не вечно, и белорусам надо определяться со своим путем. Уверен, в Уручье найдется и достойный военный кандидат. Но я, как отставник, просил бы избирателей присмотреться к Милинкевичу. А военных, уверен, выдвинет и Гродно, и Марьина Горка, и, безусловно, Борисов. Милинкевича давно знаю, еще с Гродно, где он был не активистом, а работал заместителем председателя горисполкома. Правда, у него есть серьезный недостаток. Слишком он интеллигентный и порядочный. Нам же надо, чтобы лапшу на уши вешал, выступал с героическими речами с броневика и обещал, что завтра все будет.

И по принципу "все разрушим до основанья... А затем кто был никем, вдруг станет всем". Было уже.

Слышал: выборы депутатов — это для тех, кого все устраивает. Бойкот и только бойкот! Это, мол, единственное, что может спасти белорусов. Будем показывать дулю в кармане до тех пор, пока не выкуется какое-то гражданское общество. (Так само по себе и выкуется. Особенно хорошо куется на диване, даче.)

Ладно. Я далеко не ангел. Но истинную свою гнусную сущность узнал от комментаторов-интернетчиков: агент КГБ, конформист, перерожденец, приспосабливаться начал, еще будучи депутатом второго созыва. Прошу: прислушайтесь хоть к словам и мыслям О.Манаева. Он в связях, порочащих рейх, не замечен.

**Валерий ФРОЛОВ, генерал-майор, депутат Палаты представителей второго созыва.**

БЕЛАРУСЬ—РАСІЯ

## Следчы камітэт Расіі разбярэцца?

*Да аналізу экспарту Беларуссю растваральнікаў і разбавіцеляў прыцягнуты спецыялісты Следчага камітэта Расіі, паведамляе РІА "Новости" са спасылкай на крыніцу ў органах дзяржкіравання.*

Паводле яе звестак, урад Расіі працягвае займацца аналізам "сумніўнага экспарту растваральнікаў, разбавіцеляў і змазачных матэрыялаў" з Беларусі, бо ў гэтых схемах удзельнічалі таксама расійскія кампаніі.

У канцы ліпеня міжведамасная расійская група з прадстаўнікоў профільных дзяржструктур пад кіраўніцтвам Федэральнай мытнай службы правярала легальнасць вытворчасці і экспарту растваральнікаў і разбавіцеляў з тэрыторыі Беларусі. Вынікам работы гэтай групы стала спыненне расійскімі нафтавымі кампаніямі паставак у Беларусь прадукта нафтаперапрацоўкі, які з'яўляецца сыравінай для вытворчасці растваральнікаў і разбавіцеляў.

Паводле неафіцыйных ацэнак, страты расійскага бюджэту ў 2012 годзе з-за сумніўнага экспарту растваральнікаў і разбавіцеляў з Беларусі ацэньваюцца ў 2 млрд долараў.

ДЫПКУР'ЕР

## Інтарэсы Швецыі будзе прадстаўляць Эстонія

Урад Эстоніі ўхваліў дагавор, згодна з якім Талін з 20 жніўня будзе прадстаўляць інтарэсы Швецыі ў Беларусі ў візавых пытаннях. Жаданне, каб Эстонія прадстаўляла Швецыю ў Мінску, выказала МЗС Швецыі.

ПАДЛІЧЫЛІ...

## Як адрозніваецца ў цане медыцынская адукацыя

У Беларусі вучыцца на ўрача можна ў чатырох ВНУ — у Беларускім дзяржаўным медыцынскім універсітэце, які знаходзіцца ў Мінску, а таксама ў медуніверсітэтах Віцебска, Гродна і Гомеля. Усе ВНУ акрамя бюджэтнага навучання прапаноўваюць і платнае. Што цікава, плата за навучанне ў сталічным медуніверсітэце значна адрозніваецца ад платы ў абласных ВНУ.

У новым 2012—2013 навучальным годзе кошт навучання ў БДМУ будзе вар'іравацца ад 12,5 млн руб. на медыкапрафілактычным факультэце да 16,95 млн руб. на стаматалагічным.

Віцебскі медуніверсітэт спыніўся на цане 13,4 млн рублёў у год, у Гродзенскім аплата хутчэй за ўсё складзе ад 12,48 до 13,46 млн рублёў. Самае таннае навучанне ў Гомельскім медуніверсітэце — 11,05 млн рублёў у год.

Праўда, наўрад ці хто з адміністрацыі ВНУ запэўніць, што вызначаныя сёння кошты — канчатковыя.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

